# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

№1, 1996 г. кошт свабодны грамадска-палітычная, асветніцкая газета

## Вітаем Вас, шаноўныя чытачы!

*Вы трымаеце першы нумар газеты "Гоман Барысаўшчыны". Чаму газета атрымала такую назву? Калі нехта адзін будзе распавядаць аб чымсьці, гэта можа быць цікава, але, як звычай, досыць аднабакова. Калі ж аб тым самым будуць весці гаворку адначасова шмат людзей, то такое шматгалоссе можа быць названа старым беларускім словам "гоман". Таму наша газета і завецца "Гоман Барысаўшчыны", як сканцэнтраванне разнастайных думак і шматбаковай інфармацыі аб гісторыі, сучаснасці і будучыні нашага краю.*

*Заснавальнікі газеты - людзі, якія не могуць абыякава глядзець на стан нашага жыцця - эканамічны, грамадска-палітычны і культурны. Газета "Гоман Барысаўшчыны" робіцца і прызначана ў першую чаргу для тых, хто лі - чыць нашы землі не правінцыяй, а краем ў цэнтры еўрапейскай дзяржавы - Беларусі. Наша газета для тых, хто жадае бачыць Барысаўшчыну эканамічна адроджанай, з квітнеючым культурным жыццём, са здаровымі жыхарамі, якія б жылі ў экалагічна чыстым асяроддзі пры гаран - таванні іх грамадзянскіх правоў. Наша газета для тых, хто думае, разважае, сумняваецца, задае пытанні, шукае адказы і мае разумныя прапановы, якія можна выказаць пад час дабразычлівай гамонкі.*

*Таму запрашаем усіх прыняць удзел у "Гомане Барысаўшчыны".*

## БАРЫСАЎШЧЫНА Ў ІХ ЛЁСЕ

З многімі куткамі Беларусі звязаны лёс і творчасць народнага песняра Янкі Купалы. Бываў ён і на Барысаўшчыне. 1932 год. З пісьменнікамі С.Баранавых, У.Хадыкам, С.Ліхадзіеўскім і іншымі. Янка Купала прымаў удзел у літаратурных вечарынах на прадпрыемствах горада, выступаў на пашыраным пасяджэнні РК ЛКСМБ, сустракаўся са студэнтамі сельгастэхнікума. 1934 год. Амаль увесь ліпень разам з пісьменнікамі В.Кавалём, І.Гурскім паэт быў у творчай камандзіроўцы ў Барысаве і раёне. Купала чытаў свае вершы на вечары партыйна-камсамольскага і прафсаюзнага актыву, гутарыў з рабочымі, піянерамі, выязджаў на раён. Пад уражаннем паездкі паэт напісаў вершы "Выпраўляла маці сына","Хвалююцца марскія хвалі","Я-калгасніца", "Калгасу "Чырвоны барэц", паэму "Барысаў", якую ён чытаў на адкрыцці памніка У.І.Леніна. Удзячныя барысаўчане надалі імя паэта сярэдняй школе N 1 і адной з вуліц горада.

Янка Маўр. Хто не ведае таленавітага пісьменніка, хто не чытаў яго захапляючых кніг для дзяцей? На жаль, не ўсе ведаюць, што пасля заканчэння Панявежскай настаўніцкай семінарыі, ён на працягу 1903-1906 гадоў настаўнічаў у Бытчанскай школе. Пасаду давялося пакінуць не па свайму жаданню. Ён быў звольнены пасля ўдзелу ў нелегальным з'ездзе настаўнікаў у Мікалаеўшчыне. Ужо ў савецкі час ён стаў адным з заснавальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры. Многія пакаленні чытачоў захапляліся яго кнігамі: "Чалавек ідзе","У краіне райскай птушкі","Сын вады","Палескія рабінзоны","Амок","ТВТ" і іншымі. І сёння Я.Маўр - адзін з папулярнейшых дзіцячых пісьменнікаў.Яго імя надана школе ў вёсцы Бытча, на будынку якой вісіць мемарыяльная дошка ў яго гонар. У школе створаны музей.

На працягу 1916-1919,1921-1928 гадоў працаваў цырульнікам у нашым горадзе ўраджэнец вёскі Чэрнеўка Крупскага раёна Гірш Камянецкі. У Барысаве ён распачаў літаратурную дзейнасць - друкавацца стаў з 1924 года. Яго паэзія прасякнута любоўю да народа-працаўніка. Пісаў на мове ідыш. Вупусціў зборнікі "Простай дарогай", "Заказ на маладосць", "Мацней за жалеза","Вершы". У 1973 годзе ў перакладзе на рускую мову ў выдавецтве "Советский писатель" выйшаў зборнік "Дороже хлеба".

У пачатку 20-х гадоў у Барысаве працаваў інструктарам павятовага камітэта камсамола Платон Галавач. Менавіта ў гэты перыяд ён распачынае літаратурную дзейнасць. За сваё кароткае жыццё (пражыў усяго 34 гады) ён паспеў пакінуць яркі, самабытны след у беларускай літаратуры. Яго пяру належаць некалькі зборнікаў апавяданняў, аповесць "Сполах на загонах", раман "Праз гады". Выдатны пісьменнік, Платон Галавач многа часу і энэргіі аддаваў грамадскай і палітычнай рабоце. У розныя гады ён быў рэдактарам газеты "Чырвоная змена", часопісаў "Маладняк", "Полымя". Займаў пасады першага сакратара ЦК ЛКСМБ, намесніка наркома асветы БССР. Расстраляны ў 1937 годзе на падставе ілжывых абвінавачванняў.

/працяг будзе/

*І.Белы*

## ТУТЭЙШЫЯ КРАЯВІДЫ



ДЗЕ НАША НЕ ПРАПАДАЛА-ХАЙ І ТУТ ЛЯСНЕ

## УВАГА!

**Рэдакцыйная рада газеты "Гоман Барысаўшчыны" запрашае ўсіх сваіх аднадумцаў да супрацоўніцтва ў зборы матэрыялаў, выданні і распаўсюджванні газеты.**

## КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ ЦІ ЖЫЦЦЁ БЕЗ КУЛЬТУРЫ?

Досыць парадаксальнае культурнае асяроддзе склалася ў Барысаве. Беларуская нацыянальная культура амаль знішчана, а тая, што існуе, мае хутчэй элітарны характар,чым бытавы. У пэўнай меры масавая беларуская свядомасць абуджаецца толькі пад час Купалля ды асобных іншых свят. У цэлым жа свядомыя беларусы ў Барысаве рэальна знаходзяцця ў становішчы нацыянальнай меншасці. Аднак і руская мова і культура не змаглі канчаткова замацавацца ў якасці пануючых. Руская культура не стала пануючай, бо не мае гістарычных карэнняў. Чыстую рускую мову ў горадзе можна сустрэць практычна не часцей за беларускую. Тая змешаная мова, так званая " трасянка", якую мы чуем штодзень на вуліцах і ў крамах, нічога акрамя жалю не выклікае. Шмат каго з носьбітаў гэтай мовы, якіх у нас чамусьці звычайна завуць "русскоязычным населением", пэўна, дакладней было б характарызаваць як "нецэнзурноязычное население".

Здзіўляе, што пры вельмі моцным вонкавым рускім уплыве ў горадзе адсутнічае рускае культурнае таварыства. Не змаглі аб'яднацца ў культурна-асветніцкія таварыствы і барысаўцы большасці іншых нацыянальнасцяў. У той жа час прыемна адзначыць, што амаль знішчаная гарадская яўрэйская абшчына змагла не толькі аб'яднацца ў таварыства, але і найбольш актыўна працуе сярод культурна-асветніцкіх таварыстваў у горадзе.

На Барысаўшчыне на сённяшні час афіцыйна існуюць наступныя грамадскія аб'яднанні, статутная дзейнасць якіх у той ці іншай меры накіравана на культурнае адраджэнне тутэйшага краю.

*1. Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны (Барысаўскае гарадское і раённае аддзяленні).*

*2. Яўрэйскае культурна - асветніцкае таварыства "Святло меноры".*

*3. Саюз палякаў Беларусі (Барысаўскае гарадское аддзяленне).*

*4. Беларускі Народны Фронт "Адраджэнне" (Барысаўскае гарадское аддзяленне).*

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

Барысаўшчына мае вельмі багатую і цікавую гісторыю. Для большасці ж тутэйшых жыхароў яна застаецца невядомай. Даследаваннем мінуўшчыны займаліся такія вядомыя асобы, як Е.Тышкевіч, П.Шпілеўскі, З.Даўгяла, А.Ляўдански, В.Самцэвіч. Аднак нягледзячы на значную цікавасць даследчыкаў і краязнаўцаў да мінулага Барысаўшчыны, па сённяшні дзень агульная гісторыя нашага краю не напісана. Найбольш грунтоўнай працай пра яе мінулае, багацце культуры і традыцый з'яўляецца кніга Е.Тышкевіча "Апісанне Барысаўскага павету ", якая ўбачыла свет у 1847 годзе. Аднак і яна мае шмат недахопаў. Застаецца толькі спадзявацца, што ў хуткім часе знойдуцца даследчыкі, якія напішуць падрабязную гісторыю нашага краю. Сёння ж мы пачынаем друкаваць агляд гісторыі Барысаўшчыны, які, як мы спадзяёмся, дасць вам уяўленне аб тым, што адбывалася на нашай зямлі ў мінулыя часы.

## ЗАСЯЛЕННЕ НАШАГА КРАЮ ЛЮДЗЬМІ І СТАНАЎЛЕННЕ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

### Першыя тутэйшыя насельнікі

Наш край знаходзіцца ў цэнтры Беларусі. На працягу гісторыі тут жылі, межавалі, суіснавалі розныя народы, носьбіты розных культур. Нават цяпер на тэрыторыі Барысаўскага раёна можна назіраць розныя дыялекты мовы, адрозненні ў побыце, планіроўцы і архітэктуры вёсак і мястэчак.

На Барысаўшчыне сутыкаюцца ландшафты, якія характэрны да розных рэгіёнаў Беларусі. Тут маюцца палі і лясы, непраходныя балоты і ўзвышшы. Апошнія падчас не саступаюць невялічкім гарам. Неад'емнай часткай нашых краявідаў з'яўляюцца рэчкі. У мінулыя гады яны адыгрывалі значную ролю ў засяленні тутэйшых мясцін і характары дзейнасці людзей. Але такі клімат і такія краявіды былі не на працягу ўсёй чалавечай гісторыі.

Барысаўшчына не ўваходзіла ў прарадзіму чалавецтва. Першабытны чалавек не мог пранікнуць сюды яшчэ ў ашэльскі час (300 тыс. год таму). Тады клімат у нашых краях быў цяплейшы, чым зараз. Істотна адрознівалася ад сучаснай флора і фауна. Рэчы, якія звязаны з тагачаснай чалавечай дзейнасцю або якія б маглі адлюстраваць свет тутэйшых раслін і жывёл, да нас не дайшлі. Але паўночней на тэрыторыі Віцебскай вобласці знойдзены рэшткі слана, які жыў у тыя часы.

Надышоўшае ў далейшым (80-90 тыс. год таму) валдайскае абледзяненне на дзесяткі тысяч год пазбавіла магчымасці чалавека жыць у нашых краях. 30-40 тысяч год таму (у эпоху позняга палеаліту) з'явіўся homo sapiens. Аб засяленні тутэйшых мясцін людзьмі ў гэты час гаварыць не прыходзіцца, хаця на поўдні сучаснай Беларусі яны тады ўжо жылі.

13-11 тысяч год таму скончыўся апошні ледніковы перыяд. Раставанне ледніка выклікала бурныя патокі вады, якія мянялі ландшафт. Яны ж маглі змыць сляды больш ранніх пасяленняў людзей, калі яны і мелі месца. Пасля адыходу ледавіка тэрыторыю сучаснай Барысаўшчыны пачалі засяляць людзі, якія займаліся пераважна паляваннем на мамантаў, з касцей якіх рабілася жыллё ў выглядзе круглага будана, трошкі заглыбленага ў зямлю.

Зверху яно абцягвалася скурай маманта. У цэнтры памяшкання знаходзілася вогнішча.

У эпоху мезаліта (IX - IY т. год да н.э.) наш край меў прынцыповыя змены як у клімаце, так і жыцці людзей. Замест мамантаў, якія перавяліся на поўнач, аб'ектамі палявання становяцца спачатку паўночныя алені, а потым, пасля далейшага пацяплення клімату - дзікія коні, быкі, бурыя мядзведзі, ваўкі і іншыя жывёлы. У гэтыя часы пачынаецца выкарыстоўванне для палявання сабак, для лоўлі птушак - сеткі. Акрамя палявання і рыбалоўства людзі займаліся зборам дзікіх пладоў і раслін. Асноўныя прыстасаванні і сродкі працы вырабляліся з костак і каменяў.

Жыллё тагачасных людзей засталося такое самае, як і ў папярэдніх насельнікаў нашага краю, толькі замест костак мамантаў выкарыстоўвалася дрэва. Свае паселішчы ў эпоху мезаліту людзі рабілі на ўзвышшах.

Найбольш старое вядомае нам паселішча ў нашым краі знаходзіцца ля Вялікага Стахава. Яно датуецца IX -Y тысячагоддзямі да нашай эры. Да YII-Y тысячагоддзяў да н.э. адносіцца стаянка каля Глівіна. Як на першым, гэтак і на другім паселішчы знойдзены шматлікія крамянёвыя прылады працы.

### Этнічныя і гаспадарчыя змены на працягу YIII-II тыс.год да н.э.

YIII-Y т. год да н.э. на нашы землі праніклі плямёны з цэнтральнай часткі сучаснай Украіны. У Y-IY тысячагоддзях тутэйшыя землі ўваходзілі ў вобласць з мікралітычнай вы-




творчасцю першабытных прыладаў працы.

Асноўным заняткам тагачасных жыхароў былі паляванне і рыбалоўства. Першымі раслінамі, якія ў нас вырошчвалі, былі пшаніца, лён, проса, верагодна - ячмень. Захоўвалі збожжа нямолатым у ямахсховішчах, якія абмазывалі глінай.

У III тысячагоддзі да н.э. ў Еўропе пачынаецца першае " вялікае перасяленне народаў". Яго другая хваля карэнным чынам змяніла этнічны і дэмаграфічны расклад на тэрыторыі сучаснай Барысаўшчыны. Да нас перамясцілася вялікая колькаасць плямёнаў з сярэдняга Падняпроўя. Перасяленне адбывалася ў першую чаргу па Дняпры і яго буйных прытоках. Таму натуральна, што параўнальна хутка перасяленцы засялілі Бярэзіну. Этнічна новыя перасяленцы адносіліся да індаеўрапейцаў, а больш дакладна - да балтаў. Характэрнай рысай новых жыхароў была наяўнасць свідраваных каменных сякер, якіх багата знойдзена ў нашым краі.

Пасяленцы сталі хутка дамінаваць над плямёнамі, якія тут жылі з больш ранняга часу. Асноўным заняткам новых жыхароў была жывёлагадоўля, што дазволіла мець лепшыя ўмовы жыцця. З прыходам балтаў пачаўся хуткі рост насельніцтва. Асноўная частка папярэдніх плямёнаў была з цягам часу асімілявана, а іх меншая частка адышла ў Падзьвінне.

У нашым краі вядомы шэраг пасяленняў людзей эпохі неаліту. Яны знаходзяцца ля Вялікага Стахава, Чэрнеўкі, Беліна і ў іншых месцах.

Напрыканцы неаліту тутэйшае грамадства складалася з плямёнаў, якія ўключалі ў сабе адну - дзьве тысячы чалавек. Жыллё тагачасных людзей мела форму круга, авала, а падчас амаль прамакутніка. Яго плошча была каля 10 - 12 кв. м. Пасярэдзіне жылля мясцілася вогнішча.

У перыяд неаліту складаецца сістэма вераванняў і культаў, шмат якіх дайшлі і да нашых дзён. Так вера ў тое, што карканне вароны або выццё сабакі прыносіць няшчасце, склалася менавіта ў тыя часы.

На мяжы III і II тысячагоддзяў у нашым краі з'явілася бронза. Але з-за адсутнасці тутэйшай сыравіны яшчэ доўгі час выкарыстоўваліся вырабы з каменю. На працягу бронзавага веку працягваецца ўдасканаленне тэхнікі апрацоўкі каменю. Дзеля таго, каб зрабіць ў каменнай сякеры дзірку, бралася пустацелая костка жывёлы, насыпаўся ўнутр пясок. Пасля костка абварочвалася некалькі разоў вяроўкай. Апошняя нацягвалася на сагнутае дрэўка. Робячы рухі дрэўкам назад - наперад рабілі патрэбную адтуліну.

На мяжы III-II тысячагоддзяў да н.э. людзей, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Барысаўшчыны, можна разглядаць як носьбітаў 2 культур. У паўднёва-заходняй частцы мела месца культура, для якой была характэрна познанеалітычная порыстая кераміка. На астатняй частцы панавала культура шнуравой керамікі.

Адбыліся істотныя змены і ў аблічы жытла. У гэты час пачалі будаваць будынкі слупавой канструкцыі. Іх аснову складалі слупы, якія забіваліся ў зямлю. Паміж слупамі, якія мелі падоўжаныя пазы, клаліся зачасаныя на канцах бярвенні. Дах такіх будынкаў быў хутчэй за ўсё двусхільны. Слупавыя жытлы рабіліся доўгімі і дзяліліся на некалькі камораў. Такая канструкцыя была абумоўлена наяўнасцю вялікіх патрыярхальных сем'яў. Колькасць насельнікаў магла даходзіць да 50 чалавек.

(Працяг будзе).

*М. Мацельскі.*

